# наша свабода

№11(98) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

29 СТУДЗЕНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## «Гэта нонсэнс»

Заяву Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што ня варта афіцыйнаму Менску езьдзіць у Страсбург і прыніжацца, камэнтуе адзін з кіраўнікоў швэдзкай дэлегацыі ў ПАРЭ Бьёр фон дэр Эш.

Эш: «Я думаю, што ўпершыню за шмат год маёй працы тут чую пра тое, што нейкая краіна хоча спыніць сваё супрацоўніцтва з Радай Эўропы. Я ня бачу пакуль афіцыйнага тэксту і чую пра гэта ўпершыню ад Вас, але гэта нонсэнс». ■

Гутарыў
Уладзімер ГЛОД, Страсбург

## В Индии произошло новое землетрясение

Утром в воскресенье в Индии произошло новое землетрясение. По сообщению *Reuters*, подземные толчки ощущались в западном штате Гужарат. Эпицентр находился в нескольких километрах от города Ахмедабад, торгового центра штата.

Эпицентр сильного землетрясения, произошедшего в Индии в пятницу и приведшего к сильным разрушениям и многотысячным жертвам, находился почти в том же самом месте.

Сведений о новых погибших и пострадавших пока нет, однако повторение подземных толчков повергло людей в панику.

Согласно последним данным, число жертв первого землетрясения превысило 20 тысяч человек, примерно столько же ранены, более пяти тысяч человек считаются пропавшими без вести.

При этом *CNN* со ссылкой на местную полицию сообщает, что число жертв землетрясения немногим превышает шесть тысяч человек.

В воскресенье из-под завалов были спасены три человека, они провели под обломками обрушившегося здания 36 часов. ■





● Люстэрка беларускай энергетыкі

Фота IREX/ProMedia

## Лукашенко: «Боевики ОБСЕ готовят в Белоруссии переворот» (?!)

Бюджет работающей в Минске миссии ОБСЕ переходит под контроль белорусских властей. Об этом заявил президент Белоруссии Александр Лукашенко, выступая в эфире национального телевидения. Свое решение Лукашенко объяснил тем, что консультативная наблюдательная группа ОБСЕ финансирует белорусскую оппозицию, сообщает НТВ.

Лукашенко выразил уверенность, что это — целенаправленная акция западных структур. По его словам, Запад заинтересован в усилении своего влияния на территории Белоруссии и сейчас ищет агентов влияния, кормит их и платит им деньги.

Помимо этого Лукашенко заявил, что он против создания группы наблюдателей за предстоящими президентскими выборами. Представители ОБСЕ планировали выделить для этой цели 14 тысяч человек. Лукашенко назвал этих людей «боевиками, которые утром сеют, а вечером достают ружья из-под кровати».

«Меня трудно здесь упрекнуть в том, что я занял жесткую позицию по отношению к ОБСЕ, — заявил Лукашенко. — Вы же знаете, после чего я занял такую позицию. ... Когда группа западных наблюдателей начала говорить о варианте Коштуницы. Что, я должен на это спокойно смотреть? Когда мой народ сверху начнут бомбить боеприпасами, начиненными якобы необогащенным ураном?». ▶

Окончание на стр.3

## Козак пачуваецца ў Беларусі як на Кубе

Агенцтва «Ю.С.Ньюс»

(www.yusnews.com)

Пасол ЗША Майкл Козак, які прыбыў у Мінск 20 кастрычніка 2000 года, адзначыў у гэты ўік-энд 100 дзён свайго знаходжання ў Беларусі.

На працягу гэтых ста дзён Аляксандр Лукашэнка так і не знайшоў час для таго, каб прыняць у М.Козака даверчыя граматы. Сам амерыканскі пасол лічыць сябе паўнамоцным кіраўніком місіі да спасылацца на Венскую канвенцыю пра дыпламатычныя зносіны, у адпаведнасці з якой пасол можа распачаць выкананне сваіх афіцыйных абавязкаў пасля ўручэння сапраўднай копіі сваіх грамат дыпламатычнаму ведамству краіны знаходжання. М.Козак уручыў такую копію яшчэ ў пачатку лістапада 2000 года тагачаснаму віцэ-прэм'еру і міністру замежных справаў Беларусі Уралу Латыпаву.

На пытанне карэспандэнта «Ю.С.Ньюс», як ён ставіцца да такіх паводзінаў беларускіх уладаў і ў прыватнасці да таго, што яго не запрасілі на традыцыйны дыпламатычны прыём 13 студзеня ад імя А.Лукашэнкі, пасол ЗША ў Беларусі адказаў: «Калі я працаваў на Кубе, мяне таксама нікуды не запрашалі».

Нагадаем, што пасля заявы М.Козака ў інтэрв'ю газеце «Народная воля» пра нелегітымнасць усіх галінаў цяперашняй беларускай улады міністэрства замежных справаў заявіла пра непаўнамоцнасць «прызначанага пасла» ЗША ды нават спыніла паведамленні пра ўзгадненне даты ягонай першай сустрэчы з А.Лукашэнкам.

Паколькі на мінулым тыдні ў Беларусь прыбыў новы пасол Італіі Стэфана Бенацца, афіцыйны Мінск апынуўся ў складаным становішчы: цяпер трэба або трымаць у доўгім чаканні італьянскага дыпламата, або прыняць ягоныя даверчыя граматы раней за М.Козака, як гэта ўжо здарылася з паслом Мадагаскара.

Крыніцы «Ю.С.Ньюс» у беларускім дыпламатычным ведамстве не выключаюць, што А.Лукашэнка прыме граматы абодвух заходніх паслоў у адзін дзень, каб падкрэсліць фармальнасць гэтай працэдуры. ■

## НАВІНЫ

■ **Міністэрства сацыяльнай абароны паведаміла, што з 1 лютага павялічацца памеры пенсіяў.** Мінімальная пенсія ўзрасце на 11,8% і складзе 23.293 рублі (гэта меней 20 долараў). Сярэдняя пенсія па ўзросце будзе роўнай 43.800 рублёў, максімальная – 67.937 рублёў.

■ **У Беларусі ўстаноўленыя новыя мінімальныя спажывецкія бюджэты.** На месяц для сям'і з 4 чалавек – гэта 63.933 рублі, для жанчын у працаздольным узросце – 74.847 рублёў, а мужчыны – 74.958 рублёў. З леташняга верасня мінімальныя спажывецкія бюджэты павялічыліся на 15-20%.

■ **У гомельскіх школах з-за грыпу ўведзены каранцін. На пазачарговыя вакацыі пайшлі каля 70 тысячаў тутэйшых школьнікаў.** Ужо можна казаць пра пачатак у горадзе грыпавай эпідэміі. Кожны дзень да ўрачоў звяртаецца звыш 2.000 чалавек. Звычайна захворваюць дзеці ва ўзросце да 14 гадоў.

■ **Бліжэйшым часам у Беларусі можа быць зменена форма аплаты за энерганосьбіты.** Ва ўрадзе разглядаецца магчымасць увядзення забароны на бартэрныя разлікі паміж прадпрыемствамі-вытворцамі і спажыўцамі энергіі ўнутры краіны.

■ **Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі, кошты на харчовыя тавары за 2000 год узраслі амаль удвая – на 97,2%.** У прыватнасці, яйкі падаражэлі на 70%, мука – на 94%, малако і малочныя прадукты – на 108%, гародніна — на 115%, мяса – на 116%, цукар – на 124%, алкаголь – на 152%, хлеб – на 207%.

■ **Абсталяванне на беларускіх прадпрыемствах мадэрнізуецца тэмпамі ў 5 разоў меншымі, чымсьці таго вымагаюць нормы.** У прамысловасці наогул у 7 разоў. Лічыцца, што кожны год тэхнічнае абсталяванне мусіць узнаўляцца на 10%.

■ **Паводле праграмы мадэрнізацыі трамвайнага парка, у бліжэйшыя 5 гадоў у Беларусі з'явяцца каля паўсотні новых машынаў.** Умяшчальнасць мадэрнізаваных трамваяў будзе больш за 200 чалавек, у вагонах паставяць кандыцыянеры і цеплаізаляцыйныя шыбы.

■ **Летась колькасць захворванняў на гепатыт на Магілёўшчыне ў параўнанні з 1999 годам павялічылася на 30%.** Сярод дзяцей да 14 гадоў гэты паказчык – наогул 60%. Разам з тым стала больш захворванняў на эпідэмічны паратыт, краснуху і вятранку.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1230

# Справу Кудзінава адправілі на перагляд



Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

У Барысаўскім раённым судзе адбудзецца перагляд справы Уладзіміра Кудзінава, які адбывае пакаранне ў мінскай калоніі. Пытанне толькі ў тым, калі ў барысаўскіх суддзяў, якія і «ўляпілі «яму сем гадоў турмы за «хабарніцтва», дойдуць рукі да справы дэпутата.

Паводле новага Крымінальнага кодэкса, Кудзінаў ужо свaё адседзеў і павінен выйсці на волю. Аднак нашыя ўлады развітвацца з ім не спяшаліся, штучна зацягваючы працэс перагляду справы. Адпаведную скаргу адваката суд вярнуў, а Кудзінава ў турме пачалі ўгаворваць самога напісаць хадайніцтва. Між тым, паводле закона аб уступленні ў дзеянне новага Крымінальнага кодэкса, перагляд справаў тых вязняў, якія па новых мерках ужо адбылі сваё пакаранне, мусіць распачынаць адміністрацыя калоніі. Вось чаму Уладзімір Кудзінаў адмовіўся сам складаць любыя паперы і заявіў, што лічыць незаконным утрыманне яго ў калоніі пасля 1 студзеня. Кудзінава яшчэ нейкі час угаворвалі, выклікалі на размовы з турэмным начальствам, але ў рэшце рэшт адчапіліся. Мінулым тыднем справа дэпутата патрапіла з Мінскага абласнога ў Барысаўскі раённы суд на перагляд. Не выключана, што перагляд адбудзецца ў бліжэйшыя дні. Толькі ці азначае гэта, што вязьня абавязкова адпусцяць на волю?

Адвакат дэпутата Таццяна Станкевіч перакананая ў станоўчым выніку. «Паводле новага Кодэкса, злачынства, якое прызнанае судом за маім падабаронным (спроба даць хабар), караецца зняволеннем ад 3 да 5 гадоў. Чатыры гады Уладзімір ужо адседзеў і год яму скасавалі па амністыі, таму сапраўды законных падставаў трымаць яго ў турме далей няма ніякіх. Трэба толькі дачакацца рашэння Барысаўскага суда, але гэта хутчэй фармальнасць», — лічыць адвакат Таццяна Станкевіч.

Жонка і дочкі Уладзіміра Кудзінава спадзяюцца хутка сустрэць яго дома. «Па маіх звестках, пакуль хварэе старшыня суда, і таму дзень перагляду яшчэ не прызначаны. Аднак мы разлічваем, што суддзі не будуць цягнуць з гэтай справай. Мы вельмі спадзяемся, што ўжо на будучым тыдні Уладзімір вернецца», – сказала карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ Зоя Кудзінава. ■

# Лукашенко: «Боевики ОБСЕ готовят в Белоруссии переворот» (?!)

Окончание. Начало на стр.1

«Здесь Югославии не будет, пока я президент», — подчеркнул глава Белоруссии. Реакции представителей ОБСЕ на эти заявления пока не последовало.

**Эта публикация обсуждалась на форуме сайта lenty.ru. Несколько характерных высказываний участников интернет-конференции мы представляем вниманию читателя:**

«Ребята, если бы вы знали как тошно и стыдно быть белорусом вместе с Лукашенко. Обменяйте нас на Бородина».



«Лукашенко в который раз пытается продемонстрировать всему миру, что он пришел в Белоруссию надолго и место свое отдавать никому не желает, прекрасно осознавая, что если комиссия ОБСЕ будет создана, то выборы нового президента (Лукашенко) фальсифицировать будет сложно. Если при выборах в парламент Лукашенко сумел пропихнуть своих людей, сняв 237(!!!) независимых кандидатов, то с президентскими выборами так не получится. Теперь он пытается сочинить новую байку, чтобы аргументированно не допустить проверяющих на президентские выборы. Вы посмотрите, как он себя ведет...Клинтон последний месяц спокойно кайф ловил в Белом доме — готовился к отходу, а наш президент заявляет: «...я дам парламенту силу после выборов президента» — в общем, никуда я не уйду. Таким образом, заявление против ОБСЕ я считаю не чем иным, как блефом и проявлением опасений, что выборы могут пройти по иному сценарию».

«Азиатские СНГ-коллеги Лукашенко обеспечили себя пожизненными сроками президентства путем всевозможных псевдоголосований. Такой «простой» вариант не совсем удобно проводить в Беларуси (якобы европейская страна). «Приличнее» будет сфальсифицировать президентские выборы (будут в этом году), если вдруг победит не Лукашенко (что, маловероятно). Подготовка к такой фальсификации и началась этим заявлением. Лукашенко — далеко вперёдсмотрящий президент!» ■

**LENTA.RU. Бесплатные конференции. 28.01.2001**

## Моладзь актывізуецца

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў назіраецца значная актывізацыя ў маладзёжным асяродку. Днямі на рэгіянальным узроўні прайшлі адразу два важныя маладзёжныя форумы.

У вёсцы Брашэвічы на Брэстчыне прадстаўнікі маладзёжных арганізацыяў вобласці выпрацавалі праграму сумесных дзеянняў, канчатковая мэта якой – мабілізаваць і заахвоціць моладзь прыйсці на выбары. Удзел у сустрэчы, арганізаванай Цэнтрам рэгіянальнага супрацоўніцтва з Белаазёрска пры падтрымцы Брэсцкага цэнтра «Вежа», узялі прадстаўнікі 14 арганізацыяў з 8 раёнаў. Маладзёжныя лідэры падпісалі «Пагадненне пра супрацоўніцтва», у якім задэкларавалі намер змагацца за незалежнасць краіны. Першачарговай задачай, безумоўна, абвешчаная мабілізацыя моладзі на прэзідэнцкую гонку. Падобныя сустрэчы, як і інфармацыйны абмен, мусяць стаць пастаяннымі для рэгіёна.

На «круглым стале» ў Магілёве прадстаўнікі 20 маладзёжных арганізацыяў з 9 раёнаў вобласці дамовіліся пра стварэнне адзінае рэгіянальнай інфармацыйнай прасторы. Удзельнікі мерапрыемства абмеркавалі перспектыву выдання рэгіянальнага маладзёжнага інфармацыйнага весніка – ужо вырашана, што першы нумар будзе прысвечаны вынікам студзеньскай сустрэчы. ■

# У каго «пад каўпаком» кватэра Клімава?

Алесь ПАЎЛОВІЧ

*Жонка дэпутата Андрэя Клімава Таццяна Леановіч заявіла пра апасенні адносна бяспекі сваёй сям'і.* Падстава – дзіўныя рэчы, што творацца з кватэрнымі тэлефонамі, а таксама з дзвярыма на лесвічнай пляцоўцы, дзе знаходзіцца кватэра Клімавых. У адну з мінулых начэй нехта прабраўся на гэтую пляцоўку, невядома як адчыніўшы жалезныя дзверы, ключы ад якіх былі толькі ў Клімава і суседзяў. Як вызначылі суседзі, наведвальнік цікавіўся электрашчытком ды корпаўся ў тэлефонных правадах. Пасля начнога візіту Таццяна Леановіч і ейныя суседзі ўзгадалі, што два апошнія тыдні іхныя тэлефоны працуюць неяк дзіўна – часта адключаюцца ды «фаняць». Яшчэ суседскі кансіліум высветліў, што ва ўсіх кватэрах пляцоўкі частымі сталі «нямыя» званкі, быццам нехта правярае, ці ёсць хто дома.



Сам А.Клімаў за кратамі

Прычыну гэтых дзіўных рэчаў вызначыць пакуль не ўдалося. Канечне, кожны думае па-свойму. Што да Таццяны Леановіч, яна не выключае, што цікавяцца менавіта яе кватэрай. «Альбо нейкія спецслужбы дэманструюць свае магчымасці, каб аказаць псіхалагічны ціск, альбо на нас звярнулі ўвагу крымінальнікі», —кажа Таццяна. На карысць першай версіі тое, што падчас вобшукаў пасля арышту Андрэя Клімава следчыя забралі ягоныя ключы, у тым ліку і ключ ад жалезных дзвярэй, якія цяпер нехта вельмі лёгка адчыняе.

Небеспадстаўна выглядае і крымінальная версія. На яе працуе тое, што пэўны час Таццяна спрабавала сабраць грошы на выкуп мужа. Сума называлася немалая – 96 тысяч долараў. Вось на іх нехта і мог спакусіцца. «Гэтым людзям спяшаюся заявіць – мая спроба сабраць грошы не ўдалася. Прапановы дапамагчы былі, але мне прыйшлося ад іх адмовіцца, бо ўсё роўна на патрэбную суму мы не выходзілі», – кажа Таццяна Клімава. А магчымым супрацоўнікам спецслужбаў яна дасылае віншаванні з прайшоўшым нядаўна днём чэкіста. «На жаль, запалохваць яны не развучыліся», —заўважае жонка Андрэя Клімава. ■

## Звольненая за небяспечнае сваяцтва

26 студзеня 2001 года ў Праваабарончы цэнтр «Вясна» зьвярнулася Валянціна Красоўская, якая знаходзіцца ў сваяцкіх адносінах з Анатолем Красоўскім (дырэктар фірмы «Красіка», зьнік без зьвестак 16 верасьня разам з Віктарам Ганчаром). В.Красоўская не выключае магчымасьці, што яе звальненьне з Мінгарвыканкама (дзе яна працавала юрыстам) выклікана сваяцкімі адносінамі з Анатолем Красоўскім.

Красоўская Валянціна працавала ў Камітэце архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкаваньня Мінгарвыканкама на пасадзе галоўнага юрыста пачынаючы з 1 лютага 1996 года. Красоўская Валянціна гаворыць: «Я добрасумленна выконвала свае абавязкі. Бараніла інтарэсы Мінгарвыканкама ў судах агульнай кампетэнцыі і гаспадарчым судзе. Практычна ўсе справы з маім удзелам былі вырашаны станоўча. За ўвесь час працы ў камітэце да мяне не выкарыстоўваліся ніякія меры дысцыплінарнага ўзьдзеяньня, а ў працоўнай кніжцы былі запісаныя адны падзякі. У адпаведнасьці з рашэньнем Мінгарвыканкама дзяржаўныя служачыя абавязаныя праходзіць атэстацыю з мэтай праверкі іх прафесійных ведаў і адпаведнасьці займаемым пасадам. У маім выпадку ў атэстацыйнай камісіі не было юрыстаў — архітэктары і бухгалтары. Мне не было зададзена ніводнага пытаньня па маім прафесійным кірунку. У працэсе правядзеньня атэстацыі старшыня камісіі Аляксандр Чадовіч (галоўны архітэктар Мінска) паведаміў, што да мяне як да сьпецыяліста няма ніякіх прэтэзіяў, а што тычыцца асабістых якасьцяў, то мяне абвінавацілі ў «неуживчивости». Праз некалькі дзён мне быў зачытаны загад пра маё звальненьне па выніках атэстацыі. Такім чынам я была звольненая з 31.10.2000 года — Аляксандр Чадовіч вырашыў мой лёс і пазбавіў мяне права быць юрыстам. Гэта быў страшны ўдар для мяне. Дакладна не ведаю, чым выкліканыя такія адносіны да мяне. У 1995 годзе я працавала на фірме «Красіка», там пазнаёмілася з пляменьнікам Анатоля Красоўскага і стала яго жонкай. Я не выключаю, што маё звальненьне магло быць выкліканае тым, што я працавала з Анатолем Красоўскім і маю з ім сваяцкія адносіны».

Валянціна Красоўская падала іск аб узнаўленьні на працы ў суд Маскоўскага раёна г.Мінска. Яе справа будзе разгледжаная ў судзе Маскоўскага раёна г.Мінска 29 студзеня ў 16.00. ■

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**

# Савет Еўропы ў ролі міратворцы

## Арменія і Азербайджан адначасова сталі новымі членамі Савета Еўропы

Валер КАЛІНОЎСКІ
для агенцтва «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) са Страсбурга

**Дзяржаўныя сцягі Арменіі ды Азербайджана ўзняліся 25 студзеня ля Палаца Еўропы ў Страсбургу. Гэтыя дзяржавы сталі 42-м і 43-м членамі Савета Еўропы адпаведна. Цырымонія адначасовага прыняцця дасюль канфліктуючых дзяржаваў у Савет Еўропы падкрэслівала жаданне гэтай панкантынентальнай арганізацыі далучыцца да міратворчых намаганняў па ўрэгуляванні нагорна-карабахскага канфлікту, які раздзяляе гэтыя краіны.**

«Мы вельмі спадзяемся, што адначасовае ўваходжанне ў еўрапейскую сям'ю дапаможа Арменіі і Азербайджану, іх прэзідэнтам знайсці свежыя падыходы да вырашэння канфлікту. Калі ласка, не ўспрымайце гэта так, што адзін бок мусіць прайграць, а іншы выйграць. Разглядайце гэта як адзіную праблему. Дзеці Арменіі і Азербайджана жадаюць разам жыць у міры ў агульным рэгіёне — у агульнай Еўропе», — зазначыў на ўрачыстай цырымоніі ў Страсбургу ў прысутнасці прэзідэнтаў Арменіі ды Азербайджана генеральны сакратар Савета Еўропы Вальтэр Швімер.

«Мы раней за Азербайджан былі гатовыя да ўступлення ў Савет Еўропы, і толькі з-за праблемаў у суседняй дзяржаве наша ўступленне зацягнулася», — падкрэсліў Роберт Качаран, робячы намёк на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Азербайджане. Так што пакуль не бачна, што дзве краіны гатовыя адразу пасля іх прыняцця ў Савет Еўропы змяніць састарэлую варожасць на поўную прыязнасць.

Як сказаў пазней Гейдар Аліеў, кожны бок больш гаворыць пра свае беды. Па выказваннях прэзідэнтаў і адказах на пытанні было бачна, што напружанасць паміж дзвюма краінамі захоўваецца, яна змякчаецца, але застанецца і пасля ўваходжання ў Савет Еўропы. Нават у афіцыйным звароце прэзідэнта Азербайджана Гейдара Аліева да Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы прагучала заява, што 20 адсоткаў тэрыторыі краіны застаюцца дасюль акупаванымі Арменіяй ды што Арменія ігнаруе рэзалюцыі ААН аб вызваленні акупаваных тэрыторыяў.

Прэзідэнт Арменіі Роберт Качаран, які знаходзіўся ў зале побач, адчуў сябе няёмка, але ўсё ж стрымана ўспрыняў гэтыя заявы, не жадаючы працягваць супярэчкі. Пазней на прэс-канферэнцыі ён падкрэсліў, што неабходна знаходзіць баланс паміж тэрытарыяльнай цэласнасцю дзяржаваў і правам народаў, у прыватнасці народа Нагорнага Карабаха, на самавызначэнне. На пытанне, ці гатовая Арменія прызнаць прынцып цэласнасці дзяржавы ў адносінах да Азербайджана, Роберт Качаран адказаў пытаннем: «А ці гатовы апошні прызнаць дзяржаўнасць Народнага Карабаха, якая стала фактам?».

Ніводзін з прэзідэнтаў не змог сказаць, што падпісанне пагаднення аб прынцыпах урэгулявання магчымае ў бліжэйшай перспектыве. Арменія настойвае на роўнай правасуб'ектнасці Азербайджана і Нагорнага Карабаха, немагчымасці анклаўнага існавання апошняга і гарантыях бяспекі. Г.Аліеў настойваў на тым, што трэба вырашаць праблему каля 800 тысячаў бежанцаў, а армянскія журналісты казалі, што колькасць армян-бежанцаў таксама складае некалькі соцень тысяч...

Тым не менш прэзідэнты не адмаўляюцца ад дыялога і кажуць пра неабходнасць выключна мірнага вырашэння канфлікту.

«Нягожа будзе Савету Еўропы, калі ў яго складзе будуць знаходзіцца дзве краіны, што застаюцца ў стане вайсковага канфлікту паміж сабою», — сказаў Гейдар Аліеў.

«Мы можам весці перамовы самі з сабою, — зазначыў Роберт Качаран, — ды шукаць узаемны кампраміс — такі, які здольныя былі б пераварыць нашыя грамадствы, каб гэты кампраміс не прывёў да новых канфліктаў».

26 студзеня пасрэдніцкую ролю ва ўрэгуляванні Нагорна-Карабахскага канфлікту будзе выконваць прэзідэнт Францыі Жак Шырак. Францыя разам з Расіяй і ЗША з'яўляецца сустаршынёй Мінскай групы па ўрэгуляванні нагорна-карабахскага канфлікту. Мінская група працуе з 1992 года, але да вырашэння канфліктнай сітуацыі яшчэ далёка. У любым выпадку роля Савета Еўропы, што вельмі далікатна і ненавязліва падштурхоўвае дзве закаўказскія краіны да кампраміснага вырашэння застарэлай спрэчкі, з'яўляецца пазітыўнай і выклікае павагу міжнароднай супольнасці. ■

## Апошні анклаў аўтарытарызму

Рыгор БУЯН

5-7 сакавіка чарговы раз у Мінск прыедзе «парламенцкая тройка»: спецыяльны дакладчык па Беларусі ПА СЕ Вольфганг Берэндт, старшыня Палітычнага камітэта ПА СЕ Тэры Дэвіс ды прадстаўнік Еўрапарламента Ян Віерсма. Іхняя місія заключаецца, як заўжды, у вывучэнні палітычных рэаліяў на Беларусі, што з прыбліжэннем прэзідэнцкіх выбараў становіцца яшчэ актуальней. Гэтую інфармацыю 25 студзеня па вяртанні са Страсбурга, дзе праходзіла сесію ПА СЕ, абнародаваў віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13 склікання старшыня АГП Анатоль Лябедзька.

У Страсбургу дасягнутая папярэдняя дамоўленасць пра тое, што на адну з наступных сесія ПА СЕ – у красавіку ці ліпені – выправяцца кіраўнік выбарчага штаба Аляксандра Лукашэнкі, які публічна заявіў пра ўдзел у прэзідэнцкай гонцы ў якасці «самага незалежнага кандыдата», ды адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад аб'яднанай апазіцыі. Яны падзеляцца бачаннем унутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі і выкажуцца па прэзідэнцкай кампаніі.

А.Лябедзька абвергнуў інфармацыю, агучаную прадстаўніком палаты №2 Аляксеем Ваганавым, які пабываў у Страсбургу, што пытанне пра аднаўленне статусу «спецыяльна запрошанага» можа быць узнятае на сесіі ПА СЕ ў верасні. Назваўшы гэтую заяву «імправізацыяй», А.Лябедзька заявіў: «Гэтае пытанне ўвогуле не стаіць на парадку дня; пытанне можа ўзнікнуць *толькі* пры ўмове правядзення адносна дэмакратычных прэзідэнцкіх выбараў».

Для Беларусі сесія ПА СЕ нічога не змяніла: статусу»спецыяльна запрошанага» не мае ні Вярхоўны Савет, ні палата прадстаўнікоў яго не набыла. З прыняццем у шэрагі ПА СЕ Арменіі і Азербайджана «Беларусь засталася апошнім анклавам аўтарытарызму ў Еўропе», як сказаў А.Лябедзька. ■



Фота Ул. ШЛАПАКА

# Песня Бацькаўшчыне

Ірына ЛЯКСЕЕВА

Трапна і прыгожа выказаўся графік Уладзімір Басалыга пра мастацкую спадчыну, якую пакінуў сваім нашчадкам старэйшы беларускі майстра пэндзля Пётра Сергіевіч, — песня Бацькаўшчыне. Выстава ягоных твораў адкрылася ў сталічным Палацы мастацтваў.

Пётра Сергіевіч нарадзіўся на Браслаўшчыне, але ўсё сваё свядомае жыццё пражыў у старажытнай Вільні, гэтай калысцы беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя, якая, як вядома, па ўказцы Сталіна ў 1939 годзе была гвалтоўна адарваная ад Бацькаўшчыны. Нягледзячы на тое, Пётра Сергіевіч заўсёды быў і застаўся нацыянальным творцам, пра што яскрава сведчаць ягоныя карціны. Ініцыятары і арганізатары выставы – мастакі суполкі «Пагоня» – здолелі адшукаць у музеях і прыватных зборах 55 твораў жывапісу і графікі. Сярод іх цэлая галерэя высокамастацкіх партрэтаў – Міхася Забэйды-Суміцкага, Францішка Багушэвіча, Янкі Пачопкі, Язэпа Драздовіча, Янкі Купалы і ягонай жонкі Уладзіславы, Любы Асаевіч, жонкі Максіма Танка, — выдомыя кампазіцыйныя палотны – «Шляхам жыцця», «А хто там ідзе», «Усяслаў Чарадзей», краявіды, эцюды да карціны «Кастусь Каліноўскі на аглядзе паўстання 1863 года».

Пры жыцці Пётры Сергіевіча за савецкім часам у Мінску былі наладжаныя дзве ягоныя персанальныя выставы. Глядач добра памятае шыкоўную экспазіцыю 1978 года, разгорнутую на другім паверсе гэтага самага палаца, на плошчы блізу 1.000 кв. метраў. Тады 78-гадовы майстра сам прэзентаваў шырокай грамадскасці найбольш поўны збор сваіх твораў.

Гэтая ж выстава, прысвечаная, дарэчы, 100-ым угодкам мастака, магла быць больш шырокая, калі б Нацыянальны мастацкі музей адгукнуўся на просьбу сяброў суполкі «Пагоня» далучыцца да экспазіцыі творамі Пётры Сергіевіча з уласнай калекцыі. На жаль, гэтага не адбылося. Але, як кажуць, усё – да лепшага. Пайшла пагалоска, што сёлета ўшанаваць памяць славутага, таленавітага земляка яшчэ адной адмысловай выставай збіраецца міністэрства культуры. Дай, Божа. Пажывем, пабачым. ■

# Вялікі трыумф NRM

Маша ПЯТРОВА

На 7-м фестывалі беларускай рок-музыкі «Рок-каранацыя — 2000», які вечарам 26 студзеня прайшоў у Мінску, рэкордную колькасць прызоў атрымала група «N.R.M.».

Яна атрымала галоўны прыз — Крыштальную рок-карону — як лепшая група года. Пераможцай у намінацыі «Лепшы альбом года» таксама стала група «N.R.M.» за альбом «Тры чарапахі», прэзентацыя якога прайшла ў канцы 2000 года. Аднайменная кампазіцыя з альбома стала лепшай песняй года. Уладальнікам кароны ў намінацыі «Лепшы тэкст да песні» стаў музыкант «N.R.M.» Лявон Вольскі. Ён жа атрымаў прэмію ў намінацыі «Лепшы музыкант года».

Што тычыцца відэакліпаў, то і тут групу «N.R.M.» ніхто не змог абысці. Відэа на песню «Чыстая светлая» у рэжысуры Анатоля Вечара было названа кліпам года.

Пераможцам у намінацыі «Падзея года» стаў Алесь Суша — прадзюсер чарговага праекта беларускіх музыкантаў, які называецца «Я нарадзіўся тут. Фотаальбом».

У намінацыі «Традыцыі і сучаснасць» перамагла група «Юр'я».

Адкрыццём года стала група «Безь білета», якой да таго ж група «Ляпис Трубецкой» прэзентавала на цырымоніі «Рок-каранацыі-2000» гітару.

Лепшым музыкантам стагоддзя безагаворачна прызнаны Уладзімір Мулявін. ■

БелаПАН



Фота М. ПРУПАСА

# З кукішам у кішэні?

Кірэй МАНУЙЛА

**1 лютага ў Палацы Рэспублікі Аляксандр Лукашэнка правядзе рэспубліканскую нараду з творчай інтэлігенцыяй. Тэма нарады – «Захады па вырашэнні праблемаў развіцця культуры і мастацтва». Паводле выбару міністэрства культуры на сустрэчу з Лукашэнкам з'явіцца каля паўтысячы музыкаў, літаратараў і артыстаў. Плануецца, што прагучаць каля двух дзесяткаў прамоваў асобных дзеячаў культуры і старшыняў творчых саюзаў.**

Але нават тыя, хто пойдзе на гэтую сустрэчу, у прыватных размовах гавораць, што маецца вельмі вялікая верагоднасць таго, што яна ператворыцца збольшага ў частку лукашэнкавай передвыбарчай кампаніі. Неяк дзіўна, што Лукашэнку пацягнула раптам стасавацца з інтэлігенцыяй. За апошні месяц, напрыклад, ён меў аўдыенцыю спачатку з Расціславам Янкоўскім, а потым з Міхаілам Фінбергам, дагэтуль жа парабіў іх сенатарамі. Кажуць, што з кабінетаў адміністрацыі прэзідэнта і міністэрства культуры ў творчыя саюзы і калектывы некалькі тыдняў таму спушчаная каманда арганізаваць да прэзідэнцкіх выбараў тэатральна-канцэртную дзейнасць па ўсіх рэгіёнах Беларусі і публічную агітацыю дзеячаў культуры на карысць Лукашэнкі. «Поўны гуслі насыплю дукатаў» — варта чакаць ужо прама на нарадзе шэрагу папулісцкіх заяваў пра павелічэнне інтэлігенцыі заробкаў, колькасці і сумаў грантаў са спецыяльнага прэзідэнцкага фонду па падтрымцы культуры і мастацтва пад пэўныя праекты і наогул пра ўсебаковае спрыянне вольным умовам для творчае працы.

Незалежна ад таго, што будуць рабіць прысутныя на нарадзе дзеячы культуры (дыфірамбаваць і дзякаваць Лукашэнку за нібыта дзяржаўны клопат у культурніцкай галіне альбо жаліцца на недабрабыт і заняпад нацыянальных беларускіх каштоўнасцяў, альбо, са спатнелымі далонямі, талерантна, як любяць у нас казаць, падкрытыкоўваць), маральных і маральна-палітычных стратаў ім не пазбегнуць. У Беларусі яшчэ часцей стануць казаць, што інтэлігенцыі ў краіне няма. У становішчы ракам ці на ланцугу быць і называцца ёй складана і недарэчна.

Беларуская культура не мусіць, як падчарка, задавольвацца тым, што выпадкам тое-сёе перападзе. Не яна мусіць баяцца, што паменее дзяржаўнага фінансавання, і гэтак далей, наадварот, гэта дзяржава павінна і вінаватая перад ёй. А той, з кім інтэлігенцыя збіраецца сустракацца і абмяркоўваць культурніцкія праблемы, і ёсць крыніцай пераважнай большасці гэтых самых праблемаў.

Што мы зараз бачым? Зарплата бібліятэкаркі зараз раўняецца прыкладна 30 доларам, а многія бібліятэкі сёлета, асабліва ў правінцыі, не змаглі выпісаць газет у чытальныя залы. На Беларускім тэлебачанні рэдакцыя літаратурна-драматычных перадачаў, здаецца, працуе выключна на шматсерыйны выраб свайго рэдактара Юрыя Азаронка «Таемныя спружыны палітыкі». Беларускага кіно няма як такога: кіно можа і ёсць – беларускага няма, і гэта лішнім разам даказала леташняя прэм'ера «У жніўні 44-га...» Сваё 60-годдзе Уладзімір Мулявін едзе адзначаць з «Песнярамі» ў межах дзён беларускай культуры ў Маскву.

У Нацыянальным мастацкім музеі няма і, нягледзячы на з'яўленне пяціпавярховай прыбудовы, не прадугледжанае стварэнне залы, дзе выстаўляліся б сучасныя беларускія мастакі, таму іхнія творы і змяшчаюцца ў замежных калекцыях. У канцэртавай зале «Мінск» амаль кожныя выхадныя ды і не толькі – расійская эстрада. Ордэнам Францішка Скарыны Лукашэнка ганаруе направа і налева, але з усходнім вектарам – спікера расійскай Дзярждумы Г.Селязнёва, мэра Масквы Ю.Лужкова, прэзідэнта газавай кампаніі «Итэра» І.Макарава. Дзяржаўны камітэт па друку выхваляецца, што дзяржава фінансуе да 75% выданняў беларускамоўнай літаратуры, аднак жа на тутэйшым кніжным рынку яе меней за 5%. Ганарар пісьменнікаў, што друкуюцца ў газеце «Літаратура і мастацтва», за радок паэзіі складае 150-200 рублёў, а за старонку прозы – 1.5-2 тысячы рублёў, тады як калісьці было ў дзесяткі разоў болей. Аўтэнтыка Верхняга горада ў Мінску не захавалася, рэстаўрацыя Мірскага замка неапраўдана зацягнулася, а лёдавыя палацы растуць, як грыбы пасля дажджу. Чацвёра вядомых беларускіх пісьменнікаў — Васіль Быкаў, Уладзімір Някляеў, Святлана Алексіевіч, Алесь Разанаў – жывуць і працуюць на чужыне.

А што ўжо казаць пра падрасійскую сатэлітнасць, скасаванне старажытнай беларускай геральдыкі — герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сцяга, а таксама пра ўвядзенне дыскрымінацыйнага ў дачыненні да беларускай мовы білінгвізму. А пра збіццё, арышты і штрафы за гэтыя сцяг і мову? Менавіта таму многія з творчай інтэлігенцыі ў Палац Рэспублікі 1 лютага не прыйдуць. Нонканфармізм пры часе дыктатуры – сутнасная прыкмета інтэлігенцыі. Трохі суцяшае яшчэ тое, што шмат хто выправіцца на згаданую нараду з удзелам Лукашэнкі з кукішамі ў кішэнях. Але калі трымаць іх там яшчэ пяць гадоў, замлеюць рукі. ■

# 10 гадоў рэканструкцыі тэатра

Канстанцін УВАРАЎ

27 студзеня пасля 10-гадовага перапынку Магілёўскі драматычны тэатр вярнуўся ў свой стары будынак, пабудаваны яшчэ ў 1888 годзе.

Будынак тэатра знаходзіўся на рэканструкцыі і рэстаўрацыі 10 гадоў. Аднак, па словах будаўнікоў, асноўныя работы пачаліся толькі пасля таго, як будоўля аказалася на кантролі ў прэзідэнта. А таму за мінулы год рэстаўратары і будаўнікі зрабілі тут больш, чым за папярэднія дзевяць гадоў.

Міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка назваў дзень уводу ў эксплуатацыю будынка Магілёўскага драматычнага тэатра знакавай падзеяй у культурным жыцці не толькі вобласці, але і ўсёй рэспублікі.

Будаўнікі і арганізатары аднаўлення драмтэатра былі ўдастоеныя ганаровых граматаў міністэрства культуры, Магілёўскіх абласнога і гарадскога выканкамаў. Трупа тэатра атрымала ад мясцовых уладаў у падарунак новы мікрааўтобус «ГАЗель» і 5 мільёнаў рублёў. Акцёры найбуйнейшых беларускіх тэатраў паказалі магілёўскім тэатралам фрагменты сваіх спектакляў. ■

БелаПАН



# Самая бедная мыш – музейная

Кірыла ПАЗЬНЯК

На апошняй калегіі міністэрства культуры ўхвалена канцэпцыя развіцця шматпакутнага (нават міністр культуры Леанід Гуляка прызнаўся, што сюды жудасна заходзіць) Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, разлічаная на тэрмін да 2005 года.

Не, праблема з проста катастрафічным недахопам экспазіцыйных і сховішчных плошчаў вырашаная не будзе. У сховішчах музея гісторыі і культуры Беларусі, прычым размешчаных у музеі вайны, на кожны квадратны метр прыпадае ажно 400 адзінак захавання, тады як па еўрапейскіх стандартах мусіць быць блізу 3. Даўно абяцанага новага будынка па ідэі галоўнаму музею краіны бліжэйшымі 5 гадамі не дадуць дакладна. Ва ўхваленай канцэпцыі гаворка ідзе толькі пра паэтапнае, то бок, пазальнае, стварэнне новай сталай экспазіцыі. Прычым міністэрскае кіраўніцтва настойвае на маштабным паказе ў ёй сучаснага, асабліва найноўшага, перыяду гісторыі. Аднак спецыялісты-музейшчыкі даводзяць, што экспазіцыя мусіць завяршыцца падзеямі 1917 года. Маўляў, гісторыю паказаць рэальна, а на сучаснасць маецца вельмі шмат супрацьлеглых поглядаў, таму яе будзе слушным прадстаўляць не экспазіцыйным, а выставачным варыянтам.

Але зноў жа ажыццяўленне канцэпцыі залежыць ад фінансавання, пакуль жа нават адмысловага планавага каштарысу няма. Рэчаіснасць гэткая, што дзяржаўных грошай і блізка не стае, а інвестыцыяў на належнае пераааздабленне музеяў пры цяперашнім уладным рэжыме не дачакаешся. Вось і вызнаецца заганная практыка, калі з'яўляюцца, каб не распыляліся сродкі, нібыта другасныя музеі і прыярытэтныя. Як, напрыклад, Нацыянальны мастацкі, ды і там, асноўныя сродкі кінутыя на ўзвядзенне прыбудовы да яго і на адзін з дзевяці філіялаў – Мірскі замак.

Так і выходзіць, што адзін музей ратуюць – дзесятак гіне. ■

# «Стыль Радыё» рэкламавала за хабар

Генадзь БАРБАРЫЧ

Пракуратурай Цэнтральнага раёна Мінска ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні намесніка дырэктара «Стыль Радыё» і начальніка рэкламнага аддзела гэтай радыёстанцыі.

Крымінальная справа ўзбуджана па артыкуле 430 частка 2 Крымінальнага кодэкса Беларусі «Атрыманне хабару ў буйных памерах», які прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 5 да 10 гадоў.

Па некаторых звестках, супрацоўнікі «Стыль Радыё» атрымалі 1.700 долараў ЗША за льготы, звязаныя з размяшчэннем рэкламы. 26 студзеня ў офісе радыёстанцыі быў праведзены вобшук. ■

БелаПАН

# Динозавр по имени Нопфлер

Ископаемые останки ранее неизвестного науке динозавра, обнаруженные американскими археологами, получили название в честь знаменитого музыканта Марка Нопфлера.

*Masiakasarius knopfleri*, живший 71-65 млн. лет назад, был обнаружен на северо-западе Мадагаскара археологами из университета штата Юта. По их словам, музыка лидера группы «Дайр стрейтс» очень помогала им во время раскопок: «Когда мы слушали музыку Марка, нам попадалось больше частей скелета этого динозавра. Мы даже шутили: если не будет играть «Дайр стрейтс», мы ничего не найдем, а стоило поставить диск, как нам начинала сопутствовать удача».

Это уже не первый случай, когда ученые используют имена знаменитых людей для обозначения названий животных, растений и химических веществ.

Так, в честь британского рок-музыканта Стинга названа древесная лягушка *Hyla stingi*. ■

ИНТЕРФАКС

